# Крыж

**Дыялогі вякоў у сямі частках з эпілогам**

**ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ**

Прадслава.
Богша.
Цівун.

*Святой Еўфрасінні Полацкай,*
*нябеснай заступніцы Беларусі*

## Частка першая

Г о л а с. **Бысть князь в граде Полотсце именем Всеслав, той имея сыновы многы. И беше у него меньший сын именем Георгий, от негоже родися сии блаженнаа отроковица. Родителя же ея възрадовастася о рожестве ея со всеми домашними своими. И по днех неколицех повелеста крестити ю, и крестиста ю во имя Отца и Сына и Святаго Духа. И питома бяше доилицею ея, дне от дне растяше отроковица, тело млеком растяше, а душа Святаго Духа наполняшеся. Лучи же ся девици деснаго естества и молитвы плод, и толма бысть любящи учение, якоже чудитися отцу ея о толице любви учения ея...**[1]

Лета 1121-е ад Нараджэння Хрыстовага.
Бераг Дзвіны пад Полацкам. З'яўляецца
Б о г ш а, цягнучы на плячах драўляную постаць Збавіцеля, за ім ідзе
Ц і в у н з бізуном.

Ц і в у н. Пакладзі ідала на зямлю.

Богша апускае фігуру на зямлю.

На калені!

Богша становіцца на калені.

Усё, што буду казаць, паўтарай... *(Б'е бізуном.)* Да Цябе, Госпадзі, узношу душу маю!

Б о г ш а *(стогне)*. Да Цябе, Госпадзі, узношу душу маю...

Ц і в у н *(б'е)*. Скіруй мяне на ісціну Тваю і навучы мяне, бо Ты Бог збавення майго!

Б о г ш а *(стогне)*. Скіруй мяне на ісціну Тваю і навучы мяне, бо Ты Бог збавення майго!

Ц і в у н *(б'е)*. Грахоў юнацтва майго і злачынстваў маіх не ўспамінай!

Б о г ш а *(стогне)*. Грахоў юнацтва майго і злачынстваў маіх не ўспамінай...

Ц і в у н *(б'е)*. Табе веру, на Цябе спадзяюся і аніколі не пакланюся ідалу, бо гэта ёсць прытулак д'ябла...

Б о г ш а *(стогне)*. Табе веру, на Цябе спадзяюся і аніколі не пакланюся ідалу, бо гэта ёсць прытулак д'ябла...

Ц і в у н. Бяры сякеру...

Богша бярэ.

---
[1] У п'есе выкарыстаны ўрыўкі з «Жыція Еўфрасінні Полацкай».

Сячы яго! Сячы на дробныя кавалкі, на трэскі, стружкі, у дробны пыл... Потым прынясеш свечку з Сафійскага сабора і падпаліш ёю... Гарачы попел у прыгаршчах будзеш насіць да Дзвіны і тапіць... Сячы!

Богша марудна-марудна падымае сякеру.:

Б о г ш а. Госпадзі! Ты ж ведаеш, што гэта не так... Не рабіў... не рабіў я ідала... З пастом і малітваю выразаў з мёртвага дрэва жывы светлы воблік Твой...

Ц і в у н. Хрыстос павінен быць на крыжы! А гэта ідал у яго вобліку, што насміхаецца над Богам! Сячы!

Б о г ш а. Не магу...

Ц і в у н. Богша! Людзі хацелі цябе спаліць! Разам з ім, я ўратаваў цябе ад вогнішча, паабяцаўшы, што ты будзеш пакараны і раскаяны. Сячы!

Б о г ш а *(кідае сякеру)*. Не магу...

Ц і в у н. Што табе гэта дзеравяшка?! Святы Пётра ад Хрыста тройчы адракаўся...

Б о г ш а. Я не рабіў ідала...

Ц і в у н. Люд веруючы чакае... Калі ты не пасячэш яго, я змушаны буду секчы цябе бізуном да смерці... Сячы! *(Б'е.)* Сячы! *(Б'е.)* Сячы! *(Б'е.)*

З'яўляецца П р а д с л а в а.

П р а д с л а в а. Пакінь яго!

Ц і в у н. Адыдзі, дзяўчо!

П р а д с л а в а. Я не дзяўчо! Я дачка князя!

Ц і в у н. Слухаю князёўну...

П р а д с л а в а. Што зрабіў гэты чалавек?

Ц і в у н. Гэты чалавек зрабіў драўлянага ідала. Разгневаны натоўп прывязаў яго да дуба, абклаў хмызняком і хацеў спаліць разам з ідалам. Я ледзьве адбіў! Я яго з агню дастаў, а ён не жадае знішчыць ідала.

П р а д с л а в а. Чаму ты лічыш, што гэта ідал?

Ц і в у н. Хрыстос павінен быць на крыжы! І хто пакланіцца іншаму — язычнік.

П р а д с л а в а. Як завуць цябе?

Ц і в у н. Яго завуць Богша. Лазар Богша. Полацкі разьбяр і ювелір.

П р а д с л а в а. Ты аздабляў алтар Спасаўскай царквы?

Б о г ш а. Я...

П р а д с л а в а *(да Цівуна)*. Як жа ён мог рабіць ідала?

Ц і в у н. А гэта хто?

П р а д с л а в а. Хрыстос...

Ц і в у н. Хрыстос павінен быць на крыжы!

П р а д с л а в а. На крыжы Хрыстос быў мёртвы!.. Пасля таго як яго прадалі, адракліся і раскрыжавалі! Але ён быў жывы да Галгофы і праз тры дні пасля Галгофы ўваскрос! І тут ён жывы! І тут ён жывы і кажа: «Любіце ворагаў вашых, бласлаўляйце тых, хто праклінае вас, і маліцеся за крыўдзіцеляў вашых і толькі тады будзеце сынамі Айца вашага нябеснага, бо Ён кажа сонцу Свайму ўзыходзіць над злымі і добрымі і пасылае дождж на праведных і няправедных...» А хіба ён вораг табе?

Ц і в у н. Я... ўратаваў яго... Я выпадкова праязджаў...

П р а д с л а в а. І ты тут не выпадкова, і я не выпадкова... Паслалі цябе, паслалі і мяне.

Ц і в у н *(разгублена)*. Хто?

П р а д с л а в а. Ты ведаеш...

Ц і в у н. Не разумею, князёўна.

П р а д с л а в а. Ідзі і скажы ім, каб разыходзіліся. Ёсць Боскі суд і ёсць суд княскі... Хто робіць свой — разбойнік...

Ц і в у н. Слухаю.

Ц і в у н кланяецца і выходзіць.

П р а д с л а в а. Балюча?

Б о г ш а. Смешна... Хрыстос павінен быць на крыжы... Яны яго некалі і раскрыжавалі для гэтага... Каб маўчаў! Адкуль ты ведаеш, што ён гэтыя словы гаворыць? Менавіта гэтыя?

П р а д с л а в а. Дай я перавяжу цябе... *(Перавязвае.)*

Б о г ш а. Рукі ў цябе ласкавыя, князёўна...

П р а д с л а в а. Не баліць?

Б о г ш а. Не. Каб Цівун не падаспеў... як вепрука падсмажылі б. І за што? Добра, каб хоць самі былі святыя, а то ж... Сто трыццаць гадоў моляцца Хрысту, святкуюць на Яго Ражство, а Каляды, святую Тройцу так не чакаюць, як Купалле... У самы строгі пост любую мярзоту зробяць, а пакажы ім на чалавека і скажы, што ён грэшнік — як зграя галодных ваўкоў кінуцца і загрызуць...

П р а д с л а в а. Судзіш...

Б о г ш а. Нікога я не суджу! І Бог сведка, што я іх люблю... Кожнага паасобку! Да таго часу, пакуль не саб'юцца ў адну кучу. У народ! А народу сам Айцец Нябесны рады не даваў... Не паспее адвярнуцца, і ён ужо робіць злое перад вачыма Яго... Кожнага з нас трэба пасяліць у пустыню, аднаго, і адразу ж надыдзе Царства Божае.

П р а д с л а в а. Даруй ім...

Б о г ш а. Каму, князёўна? Каму? Мне іх спачатку падзяліць трэба... Адзін крычыць: «Распні!», а другі шкадуе... Я гатовы аднаму дараваць, а другому падзякаваць. Не! Я ім павінен разам

дараваць і разам дзякаваць. І злы схаваецца за спіну добрага, і добры зробіцца яго паплечнікам.

П р а д с л а в а. Ты ж ведаеш — іх паслалі...

Б о г ш а. Калі пасылаюць туды, куды табе не хочацца хадзіць, куды цябе сэрца не пускае, дык ідзі марудна, накульгваючы... А яны прыбеглі! З радаснымі вачыма. Адны адразу біць пачалі, а іншыя ж па майстэрні шнарыць і хапаць дзе што ляжыць. Адзін паскуднік набухаў бражкі ў пацір, што я зрабіў для Спасаўскай царквы, і жлукціць з яго! Прычашчаецца! Ну, дык гэтыя яшчэ нішто сабе... Проста п'яніцы і зладзюгі... А хацелі спаліць і білі сумленныя! Білі ад чыстага сэрца. А за што-о? Сляпы ўбача, не кашчунства гэта! Я ўбачыў Яго лік у вялікім кавалку дубу, што праляжаў на дне Дзвіны не адну сотню гадоў. Я працаваў, не заўважаючы ні дня ні ночы, усё лішняе, усё непатрэбнае лёгка здымаў разак... І з'явіўся Ён... Добры, спагадлівы, безабаронны... Збавіцель наш. Мая душа спявала райскія песні... І за гэта біць? І за гэта на касцёр? Госпадзі Ісусе Хрысце, Сыне Божы! Колькі людской крыві пралілося ў славу Тваю! Колькі нявінных душ загублена! А сам жа Ты, нават раскрыжаваны, разбойніку рай дараваў... Дык чаму ж мы не ідзём шляхамі Тваімі, Госпадзі?!!

П р а д с л а в а. Фрэску святога Георгія ў саборы ты рабіў?

Б о г ш а. Я рабіў... *(Паўза.)* Я не вінаваты, што ён атрымаўся непадобны на князя! Я хацеў зрабіць яго падобным, у мяне не атрымалася... Я не рабіў гэтага знарок! У мяне не атрымалася! Я стараўся! У мяне не атрымалася!

Прадслава падыходзіць і цалуе Богшу.

П р а д с л а в а. Я цябе люблю...

Б о г ш а *(нясмела абдымае яе)*. Што ты, князёўна, што ты?..

З'яўляецца Ц і в у н.

Ц і в у н. Князёўна, князь загадаў мне, каб я зараз жа прывёў цябе да яго.

П р а д с л а в а. Бывай.

Б о г ш а. Бывай.

П р а д с л а в а выходзіць.

Ц і в у н. Маліся Богу, што яна апынулася тут.

Б о г ш а. Малюся.

Ц і в у н. Маліцца толькі перад святымі абразамі і перад Святым Распяццем. Уразумеў?

Б о г ш а. Уразумеў.

Ц і в у н *(паказвае на выяву Хрыста)*. Зробіш яшчэ хоць што-небудзь такое — павешу... І не смей, не смей так глядзець на князёўну... Вочы выкалю... *(Выходзіць.)*

Абняўшы сваю работу, выходзіць і Б о г ш а.

## Частка другая

Г о л а с. **И пришедши ей в возраст 12 лет, и нача отец ея глаголати княини своей: «Нама уже лепо дати Предслава за князь». ...Она же глагола ему: «Да како Бог хощет и твоя, княже, воля, тако да будет». Тогда слышавши Предслава, размышляше в собе, глаголющи, паче же реку, от Святаго Духа наплъняшеся мысль ея, и рече в собе: «Како се будет, же отец мой мыслит припрячи мя мужеви? То аще тако будет, то печали мира сего никакоже лзе гоньзнути». Пакы в собе рече: «Что бо успеша преже нас бывшии родове наши? И женишася, посягаша и княжиша, нъ не вечноваша; житие их мимотече и слава их погибе, яко прах и хужее паучины...»**

Лета 1918-е ад Нараджэння Хрыстовага.
Губпалітупраўленне. Уваходзіць Ц і в у н. Звоніць тэлефон.

Ц і в у н *(падымае трубку)*. Слухаю... Скажыце ёй, што налётчыкі затрыманы і па законах рэвалюцыйнага часу імем рэвалюцыі заўтра будуць расстраляны... Дык што ёй трэба? Ёсць мне час з манашкамі валэндацца... Ладна, хай зойдзе...

Уваходзіць П р а д с л а в а.

П р а д с л а в а. Добры дзень.
Ц і в у н *(уражаны)*. Вы... вы з манастыра?
П р а д с л а в а. Так.
Ц і в у н. Як вас завуць?
П р а д с л а в а. Завіце мяне проста сястра.
Ц і в у н. Вы надзвычай прыгожая, сястра... Колькі вам год?
П р а д с л а в а. Дваццаць два.
Ц і в у н. Пайшлі ў манастыр адразу пасля рэвалюцыі?
П р а д с л а в а. Не. Ужо восем гадоў мінула.
Ц і в у н. Восем гадоў? Ці быў у вас бацька?
П р а д с л а в а. Быў.
Ц і в у н. І хто?
П р а д с л а в а. Князь.
Ц і в у н. Загінуў?
П р а д с л а в а. На ўсё воля Бога.
Ц і в у н. І ён змог вас некалі адпусціць у манастыр?.. Такую.
П р а д с л а в а. Хто каго можа спыніць, калі Ён пакліча.
Ц і в у н. Што ў вас да мяне?
П р а д с л а в а. Нам перадалі, што рабаўнікоў, якія ўчынілі гвалт у нашым манастыры, злавілі.
Ц і в у н. Злавілі.

Прадслава. І вы хочаце іх забіць?

Цівун. Што вы, што вы, сястра! Ніхто іх забіваць не збіраецца... Іх заўтра расстраляюць. Расстраляюць як гвалтаўнікоў-марадзёраў.

Прадслава. Усе сёстры моляцца Богу, каб гэтага не адбылося. І я прыйшла прасіць вас аб гэтым.

Цівун. Аб чым?

Прадслава. Хай іх не забіваюць...

Цівун. Кім быў ваш бацька?

Прадслава. Камандзірам крэйсера.

Цівун. Крэйсер «Аляксандраўск»?

Прадслава. Так.

Цівун. Як загінуў, ведаеце?

Прадслава. Быў бунт.

Цівун. Паўстанне. Матросы раззброілі афіцэраў, сарвалі з іх пагоны і кожнага прымушалі прайсці парадным крокам па палубе, аддаючы чэсць п'янай камандзе. Тым, хто адмаўляўся, звязвалі канатамі рукі-ногі і кідалі за борт.

Прадслава. Навошта вы мне гэта расказваеце?

Цівун. Гэтыя — былыя матросы крэйсера «Аляксандраўск». *(Паўза.)* Вы па-ранейшаму просіце дараваць ім жыццё?

Прадслава. Прашу.

Цівун. І моліцеся за іх?

Прадслава. Малюся...

Цівун. Ну, Бог хай і даруе. Рэвалюцыя не даруе. Ведаеце, сястра, што самае брыдкае... Гэта сволач, даруйце, гэта брудная мярзота палічыла, што калі рэвалюцыя адмаўляе існаванне Бога, значыць, ім можна ўсё: рабаваць, гвалціць, красці, заяўляючы, што мы, як і рэвалюцыя, супраць Бога, што мы — яе дзеці.

Прадслава. Вы так доўга пераконвалі маленькіх, неразумных, непісьменных дзяцей у тым, што яны пачатак пачаткаў у гэтым свеце, што яны самае вышэйшае і самае галоўнае на зямлі, што ўрэшце дзеці вам і паверылі. За што ж іх караць? Яны ж дзеці...

Цівун. Чаю хочаце?

Прадслава. Не. Дзякую.

Цівун. Ваша вера, сястра, на нашай зямлі ніколі не будзе мець ні сілы, ні ўплыву. Праведнымі наракаліся, наракаюцца і будуць наракацца тыя, на каго пакажа ўлада. Так было. Так будзе. Да сканчэння свету.

Прадслава. А пасля сканчэння?

Цівун. І колькі вы яго ўжо чакаеце? І кожнае стагоддзе ў вас адно: «Час блізкі, блізкі час». Памятаеце: «І паслаў князь абвясціць народу: хто не прыйдзе хрысціцца на раку, хай ён будзе багатым або бедным, жабраком або рабом,— той мне будзе

ворагам». І, пачуўшы гэта, людзі пайшлі з радасцю вялікай. З радасцю вялікай, сястра, яны цяпер і адмаўляюцца. Ім сказалі... і яны топчуць вашы святыя абразы і бураць храмы, як тысячу гадоў таму бурылі капішчы Перуна.

П р а д с л а в а. Не забівайце іх...

Ц і в у н. Сястра! Яны ўварваліся п'яныя ў ваш дом...

П р а д с л а в а. Не забівайце іх...

Ц і в у н. Свінні сабе не дазволяць рабіць тое, што рабілі яны!

П р а д с л а в а. Не забівайце іх...

Ц і в у н. Яны прыйдуць зноў!!!

П р а д с л а в а. І я зноў прыйду да вас...

Ц і в у н. Заўтра... Заўтра... Іх выведуць на досвітку за сцены манастыра, паставяць ля муроў, зачытаюць рэвалюцыйны прысуд — і дзесяць чырвонаармейцаў па камандзе «плі!» здзейсняць, кажучы па-вашаму, здзейсняць волю Боскую, а па-нашаму — рэвалюцыйны закон... Гніллё выпальваюць агнём, а не лечаць, сястра... І вы згодная са мной... Згодная, згодная... Дараваць грэшніку, прасіць за грэшніка — гэта ж, па-вашаму, сыпаць гарачы попел на галаву яго, каб Гасподзь пакараў яго больш балюча! Ці не так?! Вы знутры больш жорсткія, больш лютыя, чым мы. Аднак хопіць. Пакіньце кесару кесарава і забярыце ўсё астатняе. Заўтра ўсе паслушніцы і манахіні павінны быць на пакаранні. Чуеце, сястра?

П р а д с л а в а. Пакарання не будзе.

Ц і в у н. Пра што гэта вы?

П р а д с л а в а. Я выпусціла іх з келлі...

Ц і в у н. Як гэта выпусціла? Там жа вартавыя.

П р а д с л а в а. Яны спяць.

Ц і в у н. Што значыць спяць? Дзень жа на вуліцы.

П р а д с л а в а. Спяць. *(Глядзіць у вочы Цівуну.)*

Той пахіснуўся, зрабіў няўпэўнены крок наперад і... як падкошаны, грымнуўся вобзем. П р а д с л а в а выходзіць. Цівун апрытомнеў, падпоўз да тэлефона.

Ц і в у н *(у трубку)*. Начальніка каравула! Гэта Цівун... Арыштуйце манашку...

## Частка трэцяя

Г о л а с. **В та же лета бяше княини Романоваа игуменьею. Прииде к той, просящи прияти аггельскаго образа и причтатися ту сущим инокиням, и быти подо игом Христовым. Видевши же она блаженная жена юность и**

**возраст цветущий оней, и смятеся, и нача телом утерьпати и сердцем ужасатися, и лицем на землю преклоньши, и восклоньшися, и возревши на юность ея, воздохну и прослезившися, глагола ей: «Чадо мое! Како могу се сотворити? Отец твой, уведев, со всяким гневом возложит вред на главу мою. И еще же юна еси возрастом, не можеши понести тяготы мнишескаго жытиа. И како можеши оставити княжение и славу мира сего?»**

Лета 1129-е ад Нараджэння Хрыстовага.
Полацк. Майстэрня. Б о г ш а з кружкай.

Б о г ш а. Ізноў вайна... Святаславічы пакрыўдзіліся на Ізяславічаў і ідуць на вы ці на мы... Усё адно, на нашу шыю... Самае смешнае, аднаго ж роду-племені, браты... І яшчэ смяшней, аднаму Богу моляцца... І зусім смешнае: служкі Твае, Госпадзі, у Кіеве бласлаўляюць мячы Святаславічаў секчы Ізяславічаў, а ў Полацку мячы Ізяславічаў секчы Святаславічаў. І рэжуць адзін аднаго з імем Тваім на харугвах. І з тымі Бог, і з тымі Бог... А дзе ж тады рагаты? І хоць бы хто з іх сказаў-крыкнуў Тваё: «Не забі!» І спытай Ты каго з іх, што ім трэба... Усё народ вызваляюць, каб вы паздыхалі! Госпадзі, вызваліў бы Ты ад іх саміх народ, а мы б як-небудзь пражылі. Ты ж Сам казаў, калі хто абзаве брата свайго дурнем — таго ў геену вогненную! А яны і не абзываюцца нават, адразу горла брату свайму грызуць! Людаеды... Братаеды... І час жа такі падгадваюць, калі араць-сеяць, жаць-малаціць трэба. Палеткі конямі стопчуць, збажыну спаляць, свірны разграбяць... А ўзімку кармі іх, абаронцаў-вызваліцеляў. І абы-чаго не ядуць! Салодкае давай... Воі! Адзін перад адным пахваляюцца, хто больш крыві выпіў і чалавечыны з'еў. Гультаі... Нічога, апроч таго, што мячом махаць, не ўмеюць і не хочуць... Па мне ўсё адно: ці ты сам па сабе ліхадзей, ці з князем разбойнічаеш... Адно слова — разбойнік. І чым спрытнейшы разбойнік, тым яму большая пашана і ўзнагарода... Людаеды... І хоць бы не чапляліся, заразы... Не-е... Прыйдзе чужы — праклінай свайго, вернецца свой — кляні чужога... А што да мяне, дык ці гэты бот, ці гэты бот; і гэты чорт, і гэты чорт.

З'яўляецца Ц і в у н.

Ц і в у н. Ну што, вядзьмак, варожыш?
Б о г ш а. Малюся...
Ц і в у н. Моляцца ў царкве, а не ў хляве.
Б о г ш а. Увесь свет храм Божы, дый хлеў за храм не горшы...
Ц і в у н. Прыкусі язык!
Б о г ш а. Хрыстос нарадзіўся ў хляве...
Ц і в у н. Што ты вярзеш?

Б о г ш а. Выпі віна, страж існай веры... Хто п'е замнога, той бачыць Бога... Вып'ем, пастух...

П'юць.

Ц і в у н. Калі вас не пасвіць, вы разбрыдзецеся па лясах, як статак кароў, шукаючы сваіх лесуноў, ваўкалакаў, жыценяў, баннікаў і дамавых... І замест існага Бога станеце зноў маліцца Перуну... Бо ён грыміць у нябёсах...

Б о г ш а. Шчаслівы край, які гоняць у рай... Бізуном.

Ц і в у н. Прыкусі язык!

Б о г ш а. Маўчу.

Ц і в у н. Ты апошнімі днямі князёўну сустракаў?

Б о г ш а. Не.

Ц і в у н. Я ведаю, што яна заходзіла да цябе!

Б о г ш а. Гэта даўно было. Яна прыходзіла заказаць крыжык.

Ц і в у н. Які крыжык?

Б о г ш а. Нацельны. З сучка таго дуба, дзе мяне хацелі спаліць...

Ц і в у н. І, каб не я, спалілі б... А нашто ёй крыжык з дрэва... Князі носяць залатыя...

Б о г ш а. Скуль жа мне ведаць.

Ц і в у н. Пакажы.

Б о г ш а *(паказвае)*. Яшчэ не ўсё дарэзаў...

Ц і в у н. Калі яна прыйдзе па яго?

Б о г ш а. Не сказала...

Ц і в у н. Як гэта — не сказала?

Б о г ш а. Яна сказала, што будзе ведаць... сама будзе ведаць, калі я скончу работу... Тады і прыйдзе...

Ц і в у н. Адкуль яна будзе ведаць?

Б о г ш а. А я знаю!

Ц і в у н. Чаго ж марудзіш... Дарабляй хутчэй.

Б о г ш а. Хутка толькі кошкі родзяцца. Гэта крыж.

Ц і в у н. Налі яшчэ віна...

Богша налівае. Цівун п'е.

Ты ўяўляеш — знікла!

Б о г ш а. Хто?

Ц і в у н. Князёўна! Прадслава... Другі дзень знайсці не можам. Князь Георгій як цень чорны ходзіць, княгіня валасы на сабе рве... Як скрозь зямлю правалілася... От Рагвалодава адроддзе! Яе прабабка Рагнеда пад мячы і агонь Полацк падвяла, абазваўшы наўгародскага князя рабынічам, цяпер праз гэту ўсяму княству гора-злыбеда будзе...

Б о г ш а. Чаго гэта?

Ц і в у н. Чаго-чаго... Налі яшчэ. *(П'е.)* Мінулым годам Мсціслаў кіеўскі захацеў рушыць на полаўцаў, прыслаў да нас за падмогай. А нашы князі ці то з пахмелля, ці здуру паслалі адказ: маўляў, спраўляйся сам, нам і ў Полацку ёсць што рабіць. Вось ён і хоча расправіцца з Полацкам. Вельмі оскорбяся! І што прыдумаў! Вайны з палачанамі не пачынаць, усіх князёў, толькі князёў, разам з дзецьмі — выслаць. А народ не чапаць. Ну, а калі наш народ не чапаюць, ён з печы не злезе. Хай хоць князёў высылаюць, хоць Хрыста распінаюць. Ніхто на абарону не паўстане. Ледзь паратунак знайшлі... У Мсціслава ёсць любімы пляменнік... Барыска. Выдадзім за яго нашу Прадславу... Хто ж сваякоў высылаць будзе?! Сваты прыехалі, а яна знікла! Налі! *(П'е.)* Калі заявіцца да цябе за сваім крыжыкам, каб я ведаў... Адразу ж...

Б о г ш а. Добра.

Ц і в у н. І калі язык табе яшчэ патрэбны, усё, што я табе расказаў тут,— забудзь.

Б о г ш а. Забыў.

Ц і в у н. А Прадслава прыгожая... Праўда? *(Паўза.)* Во пашчасціць Барыску, га? *(Выходзіць.)*

Б о г ш а. Усё віно выжлукціў, падла... *(Выразае на крыжыку.)*

Уваходзіць П р а д с л а в а.

П р а д с л а в а. Мір табе...

Б о г ш а. Цябе шукаюць.

П р а д с л а в а. Я ведаю.

Б о г ш а. Ты чула?

П р а д с л а в а. Не. Я ведаю.

Б о г ш а. І ведаеш, нашто шукаюць?

П р а д с л а в а. Ведаю.

Б о г ш а. Табе трэба ратаваць зямлю сваю і сваю Радзіму.

П р а д с л а в а. Гэта мая зямля, але не мая Радзіма. І не твая... І не твая...

Б о г ш а. Не, яна мая... Яна мая. *(Крычыць.)* Цябе хочуць аддаць пляменніку Мсціслава!!! Табою хочуць разлічыцца! За полацкі пасад! За спакой! За мір з Кіевам! За тое, каб пазбегнуць выгнання!!!

П р а д с л а в а. Увесь княскі род Полацка пойдзе ў выгнанне...

Б о г ш а. І ты?

П р а д с л а в а. Не. Я застаюся.

Б о г ш а. Жонкай Барыскі?

П р а д с л а в а. Нявестай Хрыста... У манастыр...

Б о г ш а. Прадслава, што ты? Што ты? Ты ж князёўна...

П р а д с л а в а. Хіба не князі павінны паказваць свайму люду, як трэба жыць і куды трэба ісці?..

Б о г ш а. Ты ж... прыгожая...

П р а д с л а в а. А хіба Богу патрэбны толькі ўбогія, хворыя, гарбатыя ды прыпадачныя?!. Я пайду да Яго не па дапамогу, я пайду Яму дапамагаць, бо ў Яго не вераць... Просты люд не верыць таму, што жыве цяжка, брудна, халадна і галадна... Князі не вераць таму, што жывуць лёгка, цёпла і ўтульна... Ходзяць у золаце, апіваюцца і аб'ядаюцца, калі іншыя пухнуць з голаду... Святую царкву зрабілі сваёй служанкай! І абвяшчаюць, што яны намеснікі Бога на зямлі!!! Б'юць самі людзей ды яшчэ водзяць іх на войны і прымушаюць забіваць іншых... У кожным княстве жывуць адны забойцы... Ці дзеці забойцаў, ці іх унукі... А людзей трэба вучыць, прасвятляць іх вочы і ачышчаць розум.

Б о г ш а. Каго вучыць? Князёўна, паглядзі на іх...

П р а д с л а в а. Я сэрцам бачу тое, чаго не бачыш ты...

Б о г ш а. Прадслава, давай сыдзем адсюль... Пойдзем далёка, у паўночныя лясы. Там няма гэтых двухногіх звяроў з нажом у руцэ. Там — рай! Наш халодны паўночны Эдэм! Я люблю цябе...

П р а д с л а в а. І я цябе люблю...

Б о г ш а. Мы навучым сваіх дзяцей быць новым народам... Прасіць у Бога толькі патрэбнае, нікога не крыўдзіць, ніколі не браць лішняга і ўсё аддаваць... Тут нельга жыць! З імі нічога не зробіш! Яны нават не грэшныя! Яны проста... жывуць... Родзяцца, жэняцца, плодзяцца, паміраюць. Родзяцца, жэняцца, плодзяцца, паміраюць... Іх некалі бізуном загналі на хрышчэнне — яны тупа пайшлі! Іх гоняць забіваць братоў — яны тупа ідуць, у іх адбіраюць апошняе — яны тупа аддаюць, а самі здыхаюць з голаду... Яны ходзяць у царкву хрысціцца, вянчаюцца і не разумеюць, нашто ўсё гэта! «Калі б гэта не было добра, князь і баяры не прынялі б гэтага!» Нейкі князёк занюханы пад Оршай чокнуўся, па-сапраўднаму з глузду з'ехаў, на галаву захварэў... Дык ён загадаў царкву спаліць... Спалілі! Кожны сноп саломы прынёс і кожны свой сноп падпаліў. Мітрапаліт потым пытаецца: «Нашто ж вы паслухаліся хворага, вар'ята?» Дык ён жа князь, адказваюць, мы думалі, на Яго Дух сышоў, думалі, што ён блажэнны... Храм Божы загадвае спаліць, а яго, замест таго каб у клетку пасадзіць, лічаць блажэнным...

П р а д с л а в а. Дзеці часам і пажар робяць, але іх жа ніхто за гэта не судзіць.

Б о г ш а. Пойдзем адсюль, Прадслава... Мы знойдзем новую зямлю. Бог, стварыўшы нас на шосты дзень па вобразу Свайму, даваў запавет: пладзіцеся і размнажайцеся, і напаўняйце зямлю...

П р а д с л а в а. Гэта да грэхападзення, Богша... А потым было сказана, што дзень смерці лепш за дзень нараджэння, і самы шчаслівы той, хто ўвогуле не нарадзіўся... Ты зрабіў крыжык?

Б о г ш а. Зрабіў...

П р а д с л а в а. Надзень на мяне яго... *(Здымае з сябе залаты крыжык і надзявае яго на Богшу.)*

Богша надзявае на Прадславу драўляны. З'яўляецца Ц і в у н.

Ц і в у н. Мне сказалі, што яна зайшла да цябе! *(Падыходзіць да Богшы, але Прадславы не бачыць.)* Дзе яна?

Б о г ш а *(разгублена глядзіць спачатку на Цівуна, потым на Прадславу)*. Хто?

Ц і в у н. Дзе князёўна? Куды ты глядзіш?

Б о г ш а. Я не ведаю, дзе яна...

Ц і в у н. Мне сказалі, што яна тут!

Б о г ш а. Шукай!

Ц і в у н. Дай мне віна...

Б о г ш а. Няма ў мяне віна!

## Частка чацвёртая

Г о л а с. **Уведев же сиа отец ея, скоро иде в монастырь, и жалостно терзаше власы главы своея, и любезно целоваше ю, глаголя: «Горе мне, чадо мое! Почто ми сице сотворила еси, и печаль души моей принесе? Почто ми прежде сего мысли сея не явила еси? Люте мне, чадо мое сладкое, жалости сердца моего! О горе мне, чадо мое милое! Како гоньзнет доброта твоя вражые пронырьство? Уже достоит ми плакатися оструплению душею к Господу Богу моему, да внидеши в чрьтог царствия Его». Жалость же бысть всем в дому его о ней...**

Лета 1864-е ад Нараджэння Хрыстовага.
Карчма ў Вільні. Уваходзіць Ц і в у н.

Ц і в у н. Сабакі... Не, не сабакі, мы ўсе — свінні. З намі нельга па-чалавечы... Жылі скручанымі ў бараноў рог і былі шчаслівыя. Жылі ціха, як мышы пад венікам. Суседзі ўжо само слова «раб» забылі, а ў нас большая палова народа ў рабстве. Цар свабоду абвясціў! І што? Замест падзякі народ схапіўся за косы і вілы. Там паўстанне, там паўстанне... Маёнткі паляць, цара бэсцяць. У кожным занюханым маленькім павеце свой цар... Наш цар — прыдурак... Гэта я ціхенька і шэптам... *(Смяецца.)*

Свабода... Ён даў нам свабоду! Хто выпускае свіней з хлява? У сад! Усё перарыюць! Лычамі сваімі паганымі... Касіянеры! Канфедэраты... Хеўра балотная... Трэба браць цяжар на сваю душу, каб бяды не натварылі...

Уваходзяць Богша і Прадслава.

Богша. Што вы тут робіце, сястра?

Прадслава. Я прыйшла да цябе...

Богша. Няўжо? Няўжо і ў манастыры існуюць вакацыі і вы ходзіце на спатканне да былых жаніхоў спытацца пра іх здароўе і жыццё?.. Я здаровы, сястра! Жыву, як і жыў, адзін і царкву вашу, якая бласлаўляе забойцаў, а тыранам пяе «многая лета», не наведваю...

Прадслава. Не рабі гэтага...

Богша. Непрыемна? А вы прымайце мае словы з ціхай пакорай, як гэта рабіў я.

Прадслава. Сэрца маё плача ад таго, што твой боль не суняўся, але пройдзе час, і ты мяне зразумееш...

Богша. Не! Не! Не зразумею... І не дарую... Ні табе, ні твайму Богу, якога няма!

Прадслава. Госпадзі, даруй яму...

Богша. Не даруе! Мне, можа, яшчэ і даруе. А вось табе — не! Я разумею, калі з-пад вянца ўцякаюць да каханка. Пошла, канечне, але зразумела... А вось каб з-пад вянца, ад каханага чалавека ўцячы ў манастыр... Гэта нават і не вадэвіль... Скамароства нейкае... Выбрык неразумнага блазна...

Прадслава. Гэта гаворыш не ты...

Богша. Гэта кажу я...

Прадслава. Не... Гэта гаворыць гардыня. Маці граху. Пачатак пачаткаў усяго цёмнага ў гэтым свеце.

Богша. Я цябе любіў, ты разумееш?!

Прадслава. І я цябе люблю...

Богша. Ты любіш сябе! Табой кіруе духоўны эгаізм! Ты для сябе адной ці для сваёй душы будуеш рай! Табе хочацца вечнага жыцця! І дзеля гэтага ты пераступіла цераз сяброў, бацькоў, цераз мяне. Стала нявестай Хрыстовай. Канечне, куды ўжо мне з ім сапернічаць.

Прадслава. Не трэба, прашу цябе...

Богша. Не я да цябе прыйшоў, а ты да мяне! Значыць, слухай... Я вывучаў багаслоўе і ведаю: калі праз тваю ахвяру Богу нехта пакутуе — не трэба Богу такая ахвяра! Не трэба! І скажы, куды, куды сваім прыкладам ты клічаш людзей, якім твой Бог запаведваў напаўняць зямлю? Куды?.. У цесную келлю! У адзіноту! Туды, дзе ніколі не будзе дзяцей! І што, калі ўсе пойдуць па «стезях» тваіх?

П р а д с л а в а. Усе не пойдуць...

Б о г ш а. Але ж у ідэале ты хочаш, каб яны пайшлі! І што будзе? К пачатку XX стагоддзя людзі на зямлі звядуцца. Значыць, гэта мэта Боская і вас, Яго апантаных служак... Дык так і скажыце, што хочаце знішчыць род людскі! Новы патоп зрабіць! На гэты раз без Ноевага каўчэга!

П р а д с л а в а. Я вярнуся да цябе, толькі не рабі гэтага.

Б о г ш а. Чаго гэтага?

П р а д с л а в а. Ты ведаеш...

Паўза.

Б о г ш а. А ты адкуль ведаеш?.. Хто цябе падаслаў...

П р а д с л а в а. Мяне не падаслаў, мяне прыслаў...

Б о г ш а. Хто?!

П р а д с л а в а. Не рабі гэтага...

Б о г ш а. Адкуль ты пра гэта даведалася?! Хто цябе падаслаў?!

П р а д с л а в а. Я вярнуся да цябе...

Паўза.

Б о г ш а. Я даў слова гонару...

П р а д с л а в а. Адступіцца ад зла — гэта ўратаваць гонар...

Б о г ш а. Яны павядуць на шыбеніцу... Касіянера.

П р а д с л а в а. Гэта яго шлях.

Б о г ш а. Ён змагаўся за нашу свабоду...

П р а д с л а в а. Той, хто кліча на бойку, хто перарабляе прылады працы ў прылады смерці, змагаецца не за свабоду, а за рабства... Яшчэ больш жорсткае, больш лютае, больш вытанчанае... Шлях крыві вядзе да крыві, шлях смерці вядзе да смерці... Шлях любові вядзе да Любові, шлях надзеі — да Надзеі, шлях веры — да Веры.

Б о г ш а. Вы тысячу гадоў талдычыце адно і тое ж, тысячу гадоў моліцеся, і з вамі моліцца ўвесь народ, тысячу гадоў гоніце на касцёр не толькі тых, хто не верыць, а нават і тых, хто толькі сумняваецца, толькі сумняваецца... І што? Хіба свет зрабіўся дабрэйшы, лепшы? Касіянера павядуць сёння на шыбеніцу... Хоць хто-небудзь з вас, хоць хто-небудзь скажа генералу: «Не убий!»? Нагадае яму, што Хрыстос дараваў разбойніку. Не! Вы ўсё бла-слаў-ляеце! Страшную пачвару, якая тысячы людзей пасылае на дыбу, сячэ нявінным галовы, разбэшчвае чужых жонак і дачок, а сваю атруціць, і вось гэтую нелюдзь вы пасля смерці абвяшчаеце святой толькі за тое, што перад смерцю, абабраўшы свой народ, яна збудавала Сабор... Нелюдзі не баяцца Бога, яны баяцца толькі свайго гаспадара д'ябла і яго зброі...

П р а д с л а в а. І ты ўзяў яе?

Б о г ш а. Узяў.

П р а д с л а в а. Ты яго не ўратуеш.

Богша. Я ведаю. Але хай ведаюць і яны! Калі паляціць пад ногі генералу пякельная машынка, яны зразумеюць: на сілу знойдзецца сіла, на лютасць — лютасць, на кроў — кроў...

Прадслава. Ты ведаеш, што ён будзе ехаць са сваёй сям'ёй?

Богша. А ты ведаеш, што сярод расстраляных паўстанцаў ёсць бацькі малых дзетак, якія цяпер пухнуць з голаду?! І твае адзінаверцы ніколі ім не дапамогуць, бо яны дзеці дзяржаўных злачынцаў першага разраду і ім абвешчаны анафемы.

Прадслава. Не рабі гэтага...

Богша. А што мне рабіць?!

Прадслава. Ты — майстра... Табе Бог даў дар. І праз яго ты абавязаны рабіць людзей лепшымі і чысцейшымі.

Богша. Ды нікому ні я, ні мой дар Боскі, калі ён нават і ёсць, нікому не патрэбны! Стане холадна, і абразамі распаляць у печы, а са срэбных крыжоў зробяць трыццаць сярэбранікаў. Бывай.

Прадслава. Я вярнуся да цябе.

Богша. Не трэба. Я зраблю ўсё, што павінен зрабіць. Скажы лепш, хто цябе прыслаў.

Прадслава. Я ўбачыла гэта сёння ноччу ў сне.

Богша. Бывай.

Прадслава. Ты не зможаш зрабіць гэта.

Богша. Калі ты паклічаш паліцыю, вядома, не змагу.

Прадслава. Я буду маліцца за цябе.

Богша. Маліся за сябе...

Прадслава. Зберажы цябе Бог. *(Выходзіць.)*

Да Богшы падыходзіць Цівун.

Цівун. Цябе клічуць Богша?

Богша. Богша.

Цівун. Дай мне віна.

Богша. Што?

Цівун страляе.

## Частка пятая

Голас. **Уведев же отец ея, яко утаивши его постриже ю [сестру свою Городиславу], ■ възьярися на преподобную Еуфросинию, сердцем горя, приехав к манастыреви и глагола: «Чадо мое, что створи? Приложи ми сетование к сетованию и души моей печаль ■ печали». ■ сия ему глаголющу от горести сердца своего, реками слез часто излива-**

**ше от оочию своею, любезно дръжа Городиславу и глаголя: «Чада моя, на се ли вас родих, или на се вас мати воспита? Уже ли ваю брак уготовах? Уже ли чертог и брачныя ризы ваю на сетование положих собе? Чада моя милая, что ми воздаста? В радости место горькиа печали сердце мое наполниста?»**

Лета 1134-е ад Нараджэння Хрыстовага.
Келля ў Спаскім манастыры. П р а д с л а в а схілілася над пергаментам.

П р а д с л а в а *(чытае напісанае).* ...Тады Ісус сказаў вучням Сваім: калі хто хоча ісці за Мною, хай адрачэцца ад сябе і возьме крыж свой і ідзе за Мною, бо хто хоча душу сваю ўратаваць, той страціць яе; а хто страціць душу сваю дзеля Мяне, той знойдзе яе...

З'яўляецца Ц і в у н.

Ц і в у н. Маці ігумення, блаславіце на добрую справу...

П р а д с л а в а. На гэта Бог бласлаўляе...

Ц і в у н. Мае людзі толькі што звезлі з манастыра сястру Еўдакію, тваю родную сястру і дачку бацькі твайго князёўну Градзіславу...

П р а д с л а в а. Табе загадаў гэта зрабіць князь?

Ц і в у н. Не.

П р а д с л а в а. Хто табе загадаў гэта зрабіць?

Ц і в у н. Мой род служыў твайму роду не адну сотню гадоў... Дзед мой быў поруч з тваім дзедам Усяславам Чарадзеем на крывавых берагах Нямігі... Бацька лёг на паляванні пад рогі зубра, ратуючы твайго бацьку, нашага князя... Прыйшоў мой час... ратаваць... Усю сям'ю, увесь княскі род... які ты... ты зводзіш са свету! Ну, захацелася самой святога жыцця, дык жыві! Нашто дзіцёнка спакушаць?! Ты вытрымаеш усё і цераз усё пераступіш, я змалку цябе ведаю! А яна не вытрымае! Яна добрая, ласкавая, пяшчотная... Куды ёй манаскае рыззё? Яна нарадзілася, каб быць маці!! Гэта ты з пялёнак на зоркі глядзела, а яна ўсё, што пад рукі трапіцца, усё няньчыла і ўсім калыханкі спявала... А-а-а, лю-лі... Яна будзе ні Богу свечка ні чорту качарга. Ты ж калеку з яе зробіш...

П р а д с л а в а. Дзе яна?

Ц і в у н. Яе адвязуць у пушчу за Дзвіну... У новае селішча... Там ёсць царква, дзе можна маліцца Богу, але дзе можна і жыць! Звычайна, па-чалавечы... І людзям служыць, і дапамагаць ім, і шкадаваць, і выхоўваць... І дзяцей нарадзіць... І дзяцей нарадзіць!! Не могуць, не могуць усе рабіцца Апосталамі!!! Не павінны! Бог стварыў нас з духу і плоці. І пакуль жыў чала-

век — гэта адно-адзінае і непарыўнае! І хто разрывае гэта — чалавеканенавіснік, а значыць, вораг Божы!

П р а д с л а в а. Скажы, навошта ты прыйшоў...

Ц і в у н. Князёўна, я прыйшоў цябе забіць...

П р а д с л а в а. Цяпер ты ведаеш, хто цябе паслаў...

Ц і в у н. Ты вораг людзей, свайго народа і свайго княства... Княгіню Соф'ю дасталі з пятлі, калі яна даведалася, што ты пастрыгла Градзіславу. Ты адабрала ў сваіх бацькоў сябе, сваю сястру, ты пазбавіла іх унукаў... Ты слепнеш, перапісваючы Святое Пісанне, а хто яго апроч вас чытае і будзе чытаць?! Хто? Твой жудасны прыклад павёў за сабой князёў! Тых, каму наканавана дбаць пра дзяржаву, хто павінен будаваць свой дом! Княствы ў заняпадзе, бо князі мараць пра жыццё вечнае... Цябе баяцца!!! Ты зрабілася ідалам Полацкай зямлі! А ідалы — ворагі роду чалавечага на зямлі... Маліся...

П р а д с л а в а. Ты ведаеш, на што ідзеш?

Ц і в у н. Ведаю! Бог мне, можа, і не даруе, але зразумець зразумее. Маліся!

П р а д с л а в а. Я буду маліцца за цябе...

Ц і в у н. Маліся за сябе!!!

П р а д с л а в а. Госпадзі Ісусе Хрысце, Сыне Божы, цябе вялі на страту, а ты прасіў Айца Нябеснага за мучыцеляў сваіх: «Даруй ім, не ведаюць, што робяць...» І я прашу...

Ц і в у н. Ты ж баішся!!!

П р а д с л а в а. Прашу: даруй гэтаму чалавеку... і прасвятлі зрок ягоны... Бо белае яму бачыцца чорным і ноч здаецца днём...

Ц і в у н *(дастае нож)*. Госпадзі, даруй мне, грэшнаму...

З'яўляецца Б о г ш а.

Б о г ш а. Маці ігумення, даруйце, што парушаю малітву вашу... Там сястра Еўдакія прывяла з лесу двух стражнікаў княскіх... Памажыце...

П р а д с л а в а. Што з імі?

Б о г ш а. Раптоўна аслеплі, і мову адняло абодвум... Яны з ёй разам моляцца ля алтара. Сказала, каб я вас паклікаў...

П р а д с л а в а. Зараз іду...

Б о г ш а выходзіць.

*(Цівуну.)* Маліся... Памаліся і ты за іх... *(Выходзіць.)*

Ц і в у н *(тупа глядзіць на нож)*. Ведзьма...

## Частка шостая

Голас. **Ты, Господи, Сердцевидьче, Благодателю, Боже богом, милостивый Господи, призри на храм Свой, яже создах во имя Твое, якоже рече Соломон: Вышний не [illegible] рукотворенах церквах живет. Ты, Господи, призри на мя, на рабу твою Еуфросинию, и на рабыня Твоя сия, яже собрах во имя Твое, да приимше иго Твое легкое на выя своя, поидут в след Тебе, и сътвори я овца двора Твоего, и буди им пастух и дверник, да ни едино от них не будет въсхыщено волком — губителем дияволом. Буди им, Господи, оружие и забрала, да не приидет нань зло, ни рана не подвижится [illegible] телесам нашим, и не погуби нас со безаконии нашими, на Тя бо упование наше положихом, яко Ты еси Бог знающим Тя, и Тобе хвалу воспущаю до последняго моего издыханиа. В веки, аминь...**

Лета 1922-е ад Нараджэння Хрыстовага.
Полацкі павятовы выканком.
Богша і Цівун.

Богша. Выклікалі?

Цівун. Выклікаў... Сядайце, таварыш Богша. Учора адбылося пасяджэнне камісіі, якая абмеркавала зроблены вам заказ павятовага выканкома.

Богша. І што?

Цівун. Камісія прыйшла да заключэння, што намаляваныя вамі...

Богша. Напісаныя...

Цівун. Напісаныя вамі партрэты правадыроў рэвалюцыі — з'яўляюцца добра законспіраванай контррэвалюцыйнай дыверсіяй.

Богша. Чым?

Цівун. Дыверсіяй. Мне каштавала вялікіх намаганняў пераканаць камісію, што гэта не так, што вы таленавіты мастак пралетарскага паходжання і што нават у таленавітых мастакоў здараюцца творчыя няўдачы.

Богша. Вы патрабавалі ад мяне дакладнага падабенства... Так?

Цівун. Так.

Богша. Хіба яны непадобныя?

Цівун. Падобныя.

Богша. Дык у чым жа няўдача... ці дыверсія...

Цівун. Камісія вызначыла адсутнасць у напісаных вамі партрэтах багатага ўнутранага свету... Духоўнасці... Што тут смешнага?

Богша. Я аднаго з іх ведаю... На ім кляйма няма дзе ставіць... Ён пры любой уладзе... Пры любой... павінен знаходзіцца ў адным месцы — за кратамі!

Цівун. Таварыш Богша!

Богша. Рэвалюцыя яго выпусціла з турмы як пакрыўджанага царызмам. Не крыўдзіў яго царызм! Яго пасадзілі ў турму як злодзея і гвалтаўніка... А ён цяпер правадыр... Нічога. Разберацеся — і вы яго пасадзіце.

Цівун. Замаўчыце! Гэта ваша асабістая суб'ектыўная думка... Я выклікаў вас для таго, каб паведаміць: ваша праца кіраўніцтва Полацкага павятовага камітэта не задаволіла і заказ перадаецца іншаму мастаку. Паёк, які вы атрымалі ў якасці авансу, застаецца за вамі...

Богша. Ды вярну я вам назад вашу воблу! Вам нічога сапраўднага, нічога нармальнага не патрэбна... Вы не толькі зладзеяў з турмы выпусцілі, вы і з дурдома ўсіх павыпускалі. Во к прыкладу:

Тиран без Тэ.
«Реис тумам донья» —
Али
В Председатели шара земного
Посвящается за стаканом джи-джи.
Разбейся, разбейся,
Мой мозг о грамады народного «нет»,
Полно по волнам носиться
Стеклянной звездою.
Это мне над рыжей степью
Осени снежный кукиш!

Гэта напісаў паэт новага часу! Ваш геній! Дзіця і Трыбун рэвалюцыі! А па-мойму — звычайны псіх.

Прекрасно в нас влюбленное вино
И добрый хлеб, что ■ печь для нас садится.
И женщина, которою дано,
Сперва измучившись, нам насладиться.

Гэта, па-вашаму, пісаў вораг народа і белагвардзеец, дэкадэнт, выраджэнец. Бывайце. Я магу забраць партрэты?

Цівун. Не.

Богша. Чаму?

Цівун. Іх нельга паказваць...

Богша. Яны ж кожны дзень жывымі паказваюцца. Бывайце.

Ц і в у н. Таварыш Богша... Я ўпаўнаважаны паведаміць вам, што вы ўведзены ў склад камісіі па ўскрыцці і агляду мошчаў Еўфрасінні...

Б о г ш а. Агляду чаго?

Ц і в у н. Прынята пастанова Народнага камісарыята юстыцыі аб арганізаваным ускрыцці мошчаў цудатворцаў па ўсёй краіне... і адпраўцы іх пасля агляду на атэістычныя выстаўкі... Ускрыццё і агляд прызначаны на заўтра ў Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры.

Б о г ш а. Вы апупелі! Ну, я разумею яшчэ, калі вы царкоўныя званы, што адлівалі старажытныя майстры, пераплаўлялі на гарматы, калі абдзіраеце з абразоў залатыя і срэбныя аклады, якім цаны няма, а вы іх на лом, каб купіць за гэты лом пораху... Нават... калі стайні ў саборах робіце... разумею, хоць нейкая карысць. А тут... Нашто?! Гэтыя ж людзі пры жыцці не мелі нават самага неабходнага. Навошта трывожыць іх косці? Вы ж нічога, нічога ў іх дамавінах не знойдзеце!

Ц і в у н. Знойдзем.

Б о г ш а. Што?!

Ц і в у н. Менавіта гэта нічога... Ні-чо-га... Мы пакажам усім людзям, усяму свету, што костка ёсць костка і ў святога праведніка яна гніе гэтак жа, як і ў грэшніка! І нельга, носячы ў кішэні замест самапісца, фалангу пальца святога... хоць самага-самага святога,— нельга адчуваць сябе лепшым, здаравейшым, чысцейшым, свяцейшым!! Вы ж мастак, вы ж згодны са мной!! Ну няўжо вам нецікава? Яе пахавалі тысячу гадоў таму...

Б о г ш а. Бывайце...

Ц і в у н. Вы ж неаднойчы заяўлялі ўсім, што не верыце ў Бога...

Б о г ш а. У Бога — не... А вось у д'ябла пачынаю верыць...

Ц і в у н. Вы адмаўляецеся ад работы ў камісіі?

Б о г ш а. Вы апупелі... *(Выходзіць.)*

З'яўляецца П р а д с л а в а.

Ц і в у н. Добры дзень, сястра... Сядайце. Я запрасіў вас, каб паведаміць, што заўтра ў адпаведнасці з пастановай урада ў вашым манастыры павінна адбыцца ўскрыццё і агляд мошчаў Еўфрасінні. Вы па ўзгадненню з губвыканкомам уведзены ў склад гэтай камісіі... Вядома, толькі ў тым выпадку, калі дасце сваю згоду...

П р а д с л а в а *(пасля паўзы)*. Я згодная...

Ц і в у н *(пасля паўзы)*. Паверце, сястра, мне самому, хоць я і атэіст, страшэнна непрыемнае гэта мерапрыемства... ці гэта працэдура... Але там, у цэнтры... гарачыя галовы... Пастанова прынятая даўно... Трэба выконваць... Воля ўрада, урад — на-

родны, значыць, воля народа. Непрыемна! Ваша царква цяпер перажывае цяжкія часіны... Паверце, я не з усім згодны, што цяпер робіцца... Так нельга... Але ў вас ёсць суцяшэнне: Бог карае толькі тых, каго любіць...

Прадслава. Ён не нас карае...

Цівун. А каго?

Прадслава. Вас...

## Частка сёмая

Голас. **И видевши, яко просвети Бог манастыря ея, и въжеле, глаголющи: «Абы ми дойти святаго града Иерусалима и поклонитися Гробу Господню и всем святым местом, видети и целовати, и тамо живот свой скончати».**

Лета 1167-е ад Нараджэння Хрыстовага.
Полацк. Прадслава і Богша.

Богша. Птушкі вяртаюцца... І чаму ім не жывецца там, дзе заўсёды цёпла?.. Дзе той Іерусалім?

Прадслава. Далёка...

Богша. Як жа ты дойдзеш?

Прадслава. Дайду...

Богша. І я б хацеў пабыць на той зямлі, дзе Ён нарадзіўся, дзе Ён ператварыў ваду ў віно, дзе адкрываў вочы сляпым, уваскрашаў памерлае дзіця, бесаў з людзей пераганяў у статак свіней, дзе Ён маліўся ў Гефсіманскім садзе...

Прадслава. Тады хадзем са мной...

Богша. Не, сястра... Я не хачу бачыць Галгофу... І камяні там яшчэ помняць, як Яго «прадалі», прыніжалі, крычалі «Распні!», мучылі і прыбівалі цвікамі да Крыжа... А Ён, любячы за нешта нас, прасіў Бога дараваць нам, неразумным... За што? За што Ён любіць нас? Навошта мы Яму? Больш за тысячу гадоў прайшло... нічога... нічога не змянілася.

Прадслава. Змянілася...

Богша. Што?

Прадслава. Мы наблізіліся да Яго прыходу...

Богша. Яго зноў раскрыжуюць... І лепшыя з нас адракуцца ад Яго, як адрокся святы Пётра... А астатнія не заўважаць... Не заўважаць... А мо Ён ужо прыходзіў?

З'яўляецца Цівун.

Цівун. Час, маці ігуменне, час... На Дняпры нас чакаюць плыты, на іх мы пойдзем да Кіева і далей... Цябе паўсюдна чакаюць...

П р а д с л а в а. Бывай, Богша...

Б о г ш а. Бывай, сястра... Я любіў цябе...

П р а д с л а в а. І я цябе любіла... Не шукай зброі... Нават дзеля Госпада...

Б о г ш а. Я стары, нашто мне зброя...

П р а д с л а в а. Яна ў нас ёсць... Зброя наша — цярпенне і Вера...

Б о г ш а. Цярпенне і вера...

П р а д с л а в а. Вера наша — цярпенне і Надзея...

Б о г ш а. Цярпенне і надзея...

П р а д с л а в а. Надзея наша — цярпенне і Любоў...

Б о г ш а. Цярпенне і любоў...

П р а д с л а в а. Бывай...

Цалуе Богшу і выходзіць.

Ц і в у н. Не смей... Не смей так глядзець на святую жанчыну... Быдла! *(Выходзіць.)*

Б о г ш а. Госпадзі, дзе Ты?! Дзе Ты, Госпадзі...

Г о л а с. **Благословен Бог, просвещая всякого человека, грядущаго в мир. В векы молюся человеколюбивому Богу, ревнующи Петрову покаанию, еже в отвержении не отчаяша себе, но плакася горко. Господи, приимый того покаяние, примии и мене, недостойную рабу Твою Еуфросинию, молящуся на супротивника своего диявола, да не възглаголет ми на Страшнем Суде ничтоже пред Тобою, Господи, он злый раб, въступих бо ногама своима на змиевую его главу и супротивихся дръзости его оканной, надеющися на Твое человеколюбие, Господи...**

# ЭПИЛОГ

Лета 1922-е ад Нараджэння Хрыстовага.
Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр.
З'яўляюцца П р а д с л а в а, Б о г ш а, Ц і в у н.

Ц і в у н. Протокол вскрытия и освидетельствования мощей Евфросинии комиссией, выделенной согласно постановлению Полоцкого уездисполкома, утвержденному губисполкомом, состоявшегося 13 мая 1922 г. в гор. Полоцке в Спасо-Евфросиньевском монастыре.

ПРИСУТСТВОВАЛИ: от уездисполкома т. Хомяков, от укома т. Лейман, от Союза молодежи т. Пискунов, от женотдела

т. Барановская, представители красноармейских частей и представители духовенства...

П р а д с л а в а. Радуйся, заступніца, апякунка й малельніца наша! Радуйся, радаваннем Полацкай і ўсёй зямлі нашай! Радуйся, дзева чысціні і ззяння! Радуйся, Прамень Веры нашае!!!

Ц і в у н. В 14 часов коллективно, в присутствии вышеперечисленных, игуменьи и монахинь, последние приступили к освобождению мощей от облачения...

П р а д с л а в а. Радуйся, асвячэнне любае Беларусі і нашае! Радуйся, пашыральніца дабра, праўды, красы й згоды ў краіне нашай!

Ц і в у н. По наружному виду, в гробу лежит нечто, имеющее форму человека. Фигура лежит в голубом шелковом ваточнике, видны сложенные накрест руки, в красных ватных перчатках. Ноги обуты в красные шелковые туфли... Под снятой одеждой находится хитон, шелковый, лилового цвета. Из-под сорочки обнажается костяк, завернутый в шелковые лоскуты.

П р а д с л а в а. Радуйся, памочніца пакрыўджаных, сумных пацяшэнне! Радуйся, удоў і сірот заступніца!

Ц і в у н. Череп без волос вплотную приложен к туловищу, но с ним не связан. На реплику одного из присутствующих: «Развязывайте скорее» монахиня заявляет: «Тут ничего нет, одни косточки».

П р а д с л а в а. Радуйся, усё Хрысту ахвяраваўшая! Радуйся, святых угоднікаў Божых краіны нашае ззянне, веліч і слава! Радуйся, святая Маці нашая Еўфрасіння!

Б о г ш а. Блажен сей ты, граде Полоцкый, такову леторасль возрастивый — преподобную Еуфросинию. Блажении людие, жывущеи во граде том. Блажени родители твои, блажена утроба, от нея же изыде преподобнаа госпожа Еуфросиниа.

П р а д с л а в а. Блажено рожество ея, блажено воспитание ея, блажен и возраст ея, Еуфросинии достохвалныя. Блажен труд твой и подвизи, яже к Богу.

Б о г ш а. Блажении людие, послужившеи тебе. Но, о преблаженая невеста Христа Бога нашего, молися к Богу о стаде своем, еже еси совокупила о Христе, яко Тому подобает всяка слава, честь и покланяние с Отцем и со Святым Духом ныне и присно и в веки веком. Аминь.

П р а д с л а в а. Амінь.

Ц і в у н. Амінь.

*2001*